# Вясея, Шышчыцы... Здаецца, два розныя настроі

(Заканчэнне.
Пачатак на 1-й стар.)

Цікавай атрымалася ў Вясеі і размова з Анатолем Цімафеевічам Бальсіным. Інвалід II групы, ён усё ж вымушаны працаваць. Але прыйшоў чалавек зусім не скардзіцца ці расказваць пра сваё цяжкае жыццё. Анатоль Цімафеевіч прыйшоў з парадамі. Каб болей мы пісалі ў газеце пра радавых руплівцаў, пра людзей, хто сапраўды цяжкай сваёй працай стварае матэрыяльныя каштоўнасці. І каб шанавалі беларускую мову, беларускую культуру. Што мы, здаецца, Анатоль Цімафеевіч, і робім на старонках «Звязды».

Вясея ўразіла і песнямі. Пасля прыёму асобных грамадзян у мясцовым Палацы культуры адбыўся вялікі канцэрт. Прыемна, што цягнуцца людзі да агеньчыка духоўнасці. Адсюль і перакананне, што халодныя батарэі і трубы — з'ява часовая.

Адрас другі — Шышчыцы. Калгас «XVI партз'езд». Трэба шчыра заўважыць, што па вытворчасці зусім не раўня вясейскай гаспадаркі. Хаця параўнальна нядаўна зменены кіраўнік калгаса. Назіраецца стабілізацыя гаспадаркі. Праўда, зарплату ўсё яшчэ своечасова выплаціць не ўдаецца. Мо гэта і ёсць надзвычай важкая прычына таго, што людзі на сустрэчы з намі з меншай, чым у Вясеі, доляй аптымізму гаварылі пра жыццё-быццё? Без грошай жа і сапраўды сёння нікуды не павернешся. Затраты ў вяскоўцаў, калі гаварыць і пра патрэбы дзяцей-школьнікаў, і пра набыццё рэчаў, не меншыя, чым у горадзе, а вось зарплата... Усё недзе каля таго мільёна (можна і па другому вызначыць — у межах дваццаці пяці—трыццаці долараў) і круціцца. Вось тут на глебе зарплаты ці вакол яе калгаснікі ў Шышчыцах узнялі велізарны пласт, некалі і журналістамі, і палітыкамі падхоплены. А сёння ж пра дыспарытэт цэн усё болей неяк вельмі асцярожна гаворыцца. Маўляў, лепей гаспадарыць трэба. У Шышчыцах (мяркуем, і ў абсалютнай большасці калгасаў краіны) людзі роспачна, з трывогай, што хутка, відаць, зашкаліць сацыяльны барометр, працягваюць абурацца. Чаму мінеральная вада, тая ж, напрыклад, «Слуцкая», вытворчасць якой патрабуе мізэрных затрат, каштуе даражэй за малако? Што ўжо казаць пра заморскія «фанты» і «колы»... Чаму такі дарагі лямех, які любы камень можа вывесці са строю? Чаму такія страшна дарагія камбайны, трактары, сеялкі, іншая тэхніка?... Людзі ў вёсцы, разумеючы, што адбываецца нешта няправільнае ў сферы эканамічных адносінаў горада і вёскі, не могуць даўмецца, чаму ўсё ж так здарылася. Чаму чалавек, без стараннасці і руплівасці якога ў працы на зямлі, здавалася, можна памерці з голаду, страціў пашану, згубіў свае прыярытэты? І сапраўды, чаму?

Такія вось два адценні меркаванняў, такія вось два настроі. У Вясеях і Шышчыцах. У адным Слуцкім краі.

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ.**

*У наступнай справаздачы з «выязной прыёмнай» — адказы на канкрэтныя пытанні, зададзеныя ў Слуцку ў дачыненні да стану жыллёва-камунальнай гаспадаркі, а таксама адказы па ўсіх агучаных праблемах у сферы медыцынскага забеспячэння жыхароў Случчыны.*

*У прасторным вясковым Палацы культуры, як і ў большасці будынкаў, узведзеных з размахам мінулых часоў, сёння халаднавата. Але папранейшаму збіраюцца сюды аднавяскоўцы, каб паглядзець канцэрт самадзейных артыстаў або самім паспяваць, паскакаць польку.*

*Здымкі адлюстравалі момант выступлення калгаснага народнага хору і аднавяскоўцаў, пенсіянераў* ***М. Герасюка*** *і* ***А. Калбаску,*** *якія шчыра апладзіравалі сваім землякам.*

**Фота Яўгена ПЯСЕЦКАГА.**

## ДЭКЛАРАВАННЕ ДАХОДАЎ — У ЦЭНТРЫ ЎВАГІ ПАРЛАМЕНТАРЫЯЎ

**Законапраект «Аб дэклараванні фізічнымі асобамі даходаў, маёмасці і крыніц грашовых сродкаў» будзе абмеркаваны на гэтым тыдні на пасяджэннях васьмі пастаянных камісій Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу. Удзел у абмеркаванні праекта прымуць прадстаўнікі Дзяржаўнага падатковага камітэта.**

**Людміла КЛАСКОЎСКАЯ, БЕЛТА.**

## Няпамятлівасць па-лідску

УКДБ па Гродзенскай вобласці ва ўзаемадзеянні з Лідскім міжраённым аддзелам падатковых расследаванняў на станцыі Ліда затрымана ў сувязі з адсутнасцю ліцэнзіі на імпарт алкагольнай прадукцыі цыстэрна спірту «Экстра». Вага прыбытковага і хадавога тавару — 58 тон. А адпраўлены спірт у адрас мясцовай, лідскай, аграфірмы з Украіны.

**Алесь СЛАБАДСКІ.**

## Знаёмая бізнесменка ў ролі вымагальніцы

Сапраўднай сяброўкай падалася прыватнай прадпрымальніцы з Дзяржынскага раёна таксама бізнесменка, якая сустрэла яе літаральна ля трапа самалёта, што прыляцеў са Стамбула ў аэрапорт «Мінск-2». Жанчыну, нагружаную бауламі з імпартнымі пакупкамі, сяброўка і двое незнаёмых мужчын прапанавалі падвезці на аўтобусе «Мерседэс» да месца прызначэння. Натуральна, прадпрымальніца не адмовілася.

Па дарозе задаволеная замежным вояжам жанчына захоплена расказвала аб сваіх справах, таму не звярнула ўвагі, што ў салоне адбываецца нешта незразумелае: слухачы чамусьці чым далей, тым болей пахмурнелі. І нарэшце далі выхад сваёй нездаволенасці. А менавіта ў катэгарычнай форме прапанавалі вылажыць на карысць развіцця ўласнага бізнесу «чатыры штукі баксаў». Інакш...

Да Дзяржынскага ГРАУС ахвяра вымагання дабралася толькі на наступны дзень, дзе і распавяла гэтую гісторыю. Аператыўнікі ў сваю чаргу дзейнічалі хутка: вадзіцель аўтобуса, жанчына і мужчына, якія вымагалі грошы, затрыманы. Цяпер яны расказваюць аб так званай «запасычанасці» камерсанткі ўжо следчым.

**Ігар ГРЫШЫН.**

## Арыштавана аршанская зводніца

Пракуратурай Оршы арыштавана мясцовая жыхарка Е., якая ў карыслівых, зразумела, мэтах займалася зводніцтвам, уцягвала маладых жанчын у занятак прастытуцыяй. Не грэбавала, так бы мовіць, і непаўналетнімі. А яшчэ арганізоўвала вываз айчынных прастытутак у Польшчу, наладжвала «продаж» іх у публічныя дамы.

**Алесь СЛАБАДСКІ.**

## Гуманітарны груз ад нямецкіх сяброў

**Нядаўна цэнтр дзіцячай хірургіі першай клінікі Мінска атрымаў з зямлі Паўночны Рэйн-Вестфалія чарговую партыю гуманітарнай дапамогі на суму каля 600 тысяч нямецкіх марак. Гэта пераважна так званыя расходныя матэрыялы, запасныя часткі для медыцынскай тэхнікі.**

Каб гуманітарная падтрымка беларускім урачам была мэтанакіраванай і пастаяннай, яе ініцыятары ў нямецкім горадзе Дзюсельдорфе стварылі нават таварыства, якое так і называецца: «Дапамога дзіцячай клініцы Мінска». Усяго праз яго мінская медустанова атрымала гуманітарнай дапамогі на суму больш як 4,5 мільёна марак.

Гэтыя вялікая па міжнародных мерках пастаўкі сталі рэальнымі дзякуючы фінансавым уліванням Еўрапейскага саюза, а калі быць дакладным, дык яго ўстановы па гуманітарнай дапамозе — «ЕСНО». Там падтрымку цэнтра дзіцячай хірургіі разглядаюць як важны гуманітарны праект ЕС у Беларусі.

На сродкі зямлі Паўночны Рэйн-Вестфалія (каля 200 тыс. марак) набыта абсталяванне для галоўнага аддзялення цэнтра па стэрылізацыі, урачыстае адкрыццё якога плануецца на май г. г.

Таксама гуманітарную дапамогу ад Дзюсельдорфскага таварыства атрымалі чацвёртая клініка Мінска, бальніца ў Стоўбцах.

**Леанід ТУГАРЫН.**

## У СВЕЦЕ

### ПЕЛЕНГ-НАВІНЫ

**• У АФГАНІСТАНЕ ЧАСОВАЕ ПЕРАМІР'Е**

Супрацоўнікі агенцтваў па аказанню дапамогі паведамляюць, што пакуль немагчыма вызначыць урон, які прычыніў разбуральны землятрус, што адбыўся ў паўночна-ўсходняй правінцыі Афганістана Дахар. Згодна з паведамленнямі, загінула больш за 4 тысячы чалавек. Зона землятрусу знаходзіцца ў раёне, які кантралююць сілы антыталібаўскага саюза. Талібы спынілі ваенныя дзеянні, каб забяспечыць дастаўку міжнароднай дапамогі яго ахвярам.

**• ДРУГІ ЗАМАХ НА ПРЭЗІДЭНТА ГРУЗІІ ТАКСАМА ПРАВАЛІЎСЯ**

Вакол замаху на прэзідэнта Грузіі Эдуарда Шэварднадзе, які адбыўся ў ноч з панядзелка на аўторак, з'яўляюцца ўсё новыя версіі. У Тбілісі ўжо загаварылі пра «расійскі след». Грузінскія дэпутаты не выключаюць, што група тэрарыстаў была заслана з Расіі і той жа ноччу з расійскага ваеннага аэрадрома на спецыяльным самалёце пакінула межы Грузіі.

Міністр унутраных спраў Расіі Анатоль Кулікоў учора заявіў, што расійскі бок яшчэ ў лістападзе мінулага года папярэджваў МУС Грузіі пра маючы адбыцца замах. Аднак сілавыя ведамствы рэспублікі заяўлялі, што сітуацыя знаходзіцца пад кантролем і ўсе сігналы правяраюцца.

Учора з 3 гадзін ночы па мясцоваму часу былі закрыты ўсе межы Грузіі, ачэплены цэнтр Тбілісі. Перад сілавымі структурамі пастаўлена задача не даць магчымасці тэрарыстам пакінуць краіну.

У налёце на картэж прэзідэнта (23.15 па мясцоваму часу) удзельнічалі каля 20 тэрарыстаў. На думку спікера грузінскага парламента, у краіне няма структур, здольных спланаваць падобную ваенную аперацыю. Заблытвае расследаванне і знойдзенае на месцы злачынства цела баевіка. У яго знайшлі расійскі пашпарт на імя жыхара Хасаў'юрта, чачэнца па нацыянальнасці. Сітуацыя, лічаць спецыялісты, ненатуральная. Наўрад ці тэрарыст браў бы з сабой дакументы. Акрамя таго, ён загінуў ад стрэлу ў спіну. Спецыялісты мяркуюць, што яго забілі свае.

Гаворачы аб прычынах замаху, сам Шэварднадзе дапусціў магчымасць так званай «нафтавай версіі». Напярэдадні грузінскі і азербайджанскі прэзідэнты практычна дамовіліся аб тым, што нафтаправод з каспійскай нафтай пойдзе ў Турцыю праз Грузію мінуючы тэрыторыю Расіі і Чачні. Назіральнікі лічаць, што да тэракта мае дачыненне былы шэф службы бяспекі Геаргадзе. Яго абвінавачвалі і ў арганізацыі першага замаху на прэзідэнта.

**Паводле паведамленняў радыё «Свабода», «Голас Амерыкі» і «Радыё Расіі».**

### ІНФАРМ-КАКТЭЙЛЬ

*Таймс-сквер нядаўна ўвайшла ў дзесятку самых дарагіх вуліц свету. Іх спіс, толькі што апублікаваны кампаніяй, якая адсочвае стан рынку нерухомасці, адкрывае нью-йоркская Пятая авеню, дзе квадратны фут плошчы абыходзіцца арандатару ў 580 долараў у год. З ёю спаборнічаюць нью-йоркская Усходняя 57-я вуліца, лонданская Оксфард-стрыт, Елісейскія палі ў Парыжы, Радэо-драйв у Лос-Анджэлесе, такійская Гіндза, Юніон у Сан-Францыска, яшчэ дзве нью-йоркскія вуліцы і ганконгская Натан-роўд. У спісе, такім чынам, дамінуюць амерыканскія вуліцы.*

**Асашыэйтэд Прэс.**

Спецыялісты лічаць, што востры перац падымае настрой. Лічыцца, што натуральны інгрэдыент, які прыдае яму вастрыню, стымулюе нервовыя канчаткі ў роце, выклікаючы адчуванне пякоты. У адказ на гэта мозг выдзяляе эндарфіны — натуральныя рэчывы, якія забіваюць боль, дзякуючы чаму падымаецца настрой. Чым больш перцу вы ясце, тым лепш сябе адчуваеце.

**«Труд».**

## ДА ЗАМАХУ НА ЛЕНІНА Ў 1918 ГОДЗЕ МЕЎ ДАЧЫНЕННЕ СВЯРДЛОЎ, ЛІЧЫЦЬ РАСІЙСКІ ГІСТОРЫК З ЗША

Старшыня Усерасійскага Цэнтральнага Выканаўчага Камітэта (ВЦВК) Якаў Свярдлоў меў дачыненне да замаху на правадыра партыі бальшавікоў Уладзіміра Леніна, учыненага ў Маскве 30 жніўня 1918 года.

Такую версію адстойвае доктар гістарычных навук Юрый Фяльшцінскі, які пражывае ў ЗША.

«30 жніўня стала этапам у гісторыі бальшавіцкай партыі», таму што «ўпершыню з моманту захопу ўлады (7 лістапада 1917 года. — «ІФ») бальшавікі распраўляліся з адным з партыйных лідэраў: у Леніна стралялі свае», — лічыць Ю. Фяльшцінскі, які больш за 10 гадоў займаецца тэмай замахаў.

Паводле яго сцвярджэння, «1918 год стаў арэнай барацьбы ў партыі двух партыйных кіраўнікоў — Леніна і Свярдлова», прычым летам таго года Свярдлоў адхіліў Леніна ад кіраўніцтва. «Саперніцтва гэтых людзей унесла ў партыйнае жыццё крымінальнае адценне. Інтрыгі і змовы ўнутры бальшавісцкай партыі нагадвалі цяперашнія мафіёзныя разборкі», — піша Ю. Фяльшцінскі.

Дачыненне Свярдлова да замаху на Леніна гісторык даказвае, выстройваючы наступны ланцужок лагічных разважанняў.

Па-першае, ён прыводзіць факты, якія павінны пераканаць чытачоў у нетрываласці афіцыйнай версіі аб тым, што ў Леніна страляла член партыі сацыялістаў-рэвалюцыянераў Фаня Каплан, «паўсляпы інвалід», як піша Ю. Фяльшцінскі.

Акрамя таго, адзначае ён, пры параўнанні куль, вынятых пры аперацыі Леніна ў 1922 годзе і пры бальзаміраванні ў 1924 годзе, высветлілася, што яны рознага калібру. Такім чынам, можна заключыць, што ў Леніна стралялі з двух пісталетаў.

Па-другое, як вынікае з паказанняў шафёра Леніна, выступленне на заводзе, пасля якога быў учынены замах, закончылася ці каля 22 гадзін, ці каля 23-х. Між тым, Свярдлоў падпісаў зварот ВЦВК аб зробленым на Леніна замаху ў 22.40. Як вынікае са звароту, ён ужо ведае да таго часу, што замах арганізаваны правымі эсэрамі, але чамусьці не ведае, калі ён адбыўся: у звароце гаворыцца, «што зладзейскі замах» учынены «некалькі гадзін таму». Гэта, лічыць Ю. Фяльшцінскі, сведчыць аб тым, што Свярдлоў пісаў зварот загадзя і, значыць, ведаў, што замах адбудзецца і што арганізатары яго — правыя эсэры.

Па-трэцяе, Ю. Фяльшцінскі звяртае ўвагу на тое, што ўжо на наступны дзень пасля замаху на Леніна Каплан была пераведзена з Лубянкі ў Крэмль. Паводле афіцыйнай версіі, Каплан 3 верасня, згодна з пастановай ВЧК, расстраляў камендант Крамля Павел Малькоў, прычым Свярдлоў даў указанне «астанкі знішчыць без следу». Труп нейкай расстралянай жанчыны (мяркуецца, што гэта была Каплан) быў абліты бензінам і спалены ў жалезнай бочцы ў Аляксандраўскім садзе. На думку Ю. Фяльшцінскага, Свярдлову трэба было неадкладна расстраляць Каплан і знішчыць яе астанкі «толькі ў адным выпадку: калі важна было не проста прымусіць яе замоўкнуць, але і не дапусціць працэдуры апазнання трупа Каплан сведкамі тэрарыстычнага акта».

«Менавіта Свярдлоў закрыў справу Каплан, знішчыўшы найбольш важную ўліку — саму арыштаваную. Ён мог гэта зрабіць толькі ў тым выпадку, калі асабіста быў не зацікаўлены ў расследаванні і калі асабіста меў дачыненне да змовы. Іншых тлумачэнняў паводзінаў Свярдлова не існуе», — пераконвае Ю. Фяльшцінскі.

*«Новый журнал», Нью-Йорк.*

## 68 канфіскавалі. А колькі было ўсяго?

**У гарадах і вёсках нашай рэспублікі кожныя суткі, як кажуць, усплываюць на паверхню да 15 фальшывых грашовых купюр, палова з іх, а то і больш — 100-доларавыя грашовыя знакі ЗША. Напрыклад, 4 і 5 лютага іх было канфіскавана ажно 20.**

Звычайны сцэнарый: падмануты чалавек праз дзень, а то і праз год пасля набыцця фальшыўкі ў рэшце рэшт наведвае мясцовы аддзел міліцыі. Але, як кажуць у такіх выпадках «цягнік пайшоў» і знайсці збытчыка фальшывых грошай не так проста. Часта такія прайдзісветы прыязджаюць да нас з краін блізкага замежжа. Гастралюючы ў асноўным па гарадах, яны збываюць па адной-дзве купюры даверлівым людзям і бясследна знікаюць у натоўпе.

Але бывае, што і яны трапляюць на кручок. 3 лютага позна ўвечары ў Івацэвіцкі РАУС звярнуўся 60-гадовы аператар адной з запраўчных станцый. Ён заявіў, што ўдзень невядомы чалавек, які заправіў аўтамашыну «Опель», прапанаваў яму ў сувязі з адсутнасцю беларускіх грошай па нізкаму курсу 100-доларавую купюру ЗША. Адмовіць яму ён не змог. Але калі прыйшоў дадому, то ўважліва прыгледзеўся да набытай паперкі і выявіў яе яўную падробку.

Тэрмінова быў уведзены ў дзеянне план «Купюра», і ўжо праз 35 хвілін у Слоніме супрацоўнікамі ДАІ былі затрыманы два грамадзяніны, жыхары Кішынёва. У іх кішэнях было знойдзена яшчэ 68 аналагічных паперак.

**Васіль КУРЛОВІЧ.**

## Мільярд натурай

Гарадскі пасёлак Чысць, што ў Маладзечанскім раёне, зладзеі, відаць, выбралі нездарма. Тут знаходзіцца зверагаспадарка, а ў складскім памяшканні, як маглі меркаваць невядомыя, павінны захоўвацца каштоўныя шкуркі норак. Не перашкодзіў іх «праверцы» нават і ведамасны вартаўнік, нягледзячы на прысутнасць якога злачынцам удалося непрыкметна перапілаваць металічныя краты і пранікнуць у будынак. Вынік для зверагаспадаркі такога «зверскага» ўчынку, прама скажам, вельмі сумны. Як было ўстаноўлена ўжо на наступны дзень, з памяшкання бясследна знікла 627 шкурак на суму адзін мільярд рублёў.

**Ігар ГРЫШЫН.**



*КРЫМІНАЛ*

## Ахвяры камп'ютэрных зладзеяў — маладыя патрыёты

**Шэраг незвычайных крадзяжоў адбыўся апошнім часам у Мінску. Менш як за месяц невядомыя зламыснікі «выставілі» офісы аж трох райкамаў Беларускага патрыятычнага саюза моладзі. Была спроба зрабіць тое ж самае і з чацвёртым.**

Першым з 16 на 17 студзеня «паў» Першамайскі раённы камітэт БПСМ. Невядомыя забралі новы камп'ютэр, тэлевізар, магнітафон. З дакументаў — працоўныя кніжкі. У ноч з 22 на 23 студзеня, зламаўшы краты і разбіўшы акно, зладзеі праніклі ў офіс Ленінскага райкама БПСМ. Дарагога камп'ютэра, па які, відавочна, лезлі аматары лёгкай нажывы, на месцы не аказалася. Прыхапілі факс.

Кастрычніцкі райкам, які зламыснікі намагаліся абрабаваць недзе ў першыя дні лютага, націск вытрымаў. Зладзеі засталіся ні з чым.

Самы нахабны крадзеж адбыўся ў мінулую суботу ў райкаме БПСМ Беларускай дзяржаўнай політэхнічнай акадэміі. Здарылася гэта, што называецца сярод белага дня, калі побач ішлі заняткі. Невядомыя, відаць, з дапамогай манціроўкі, адчынілі калідорныя дзверы і дзверы часовага офіса камітэта. Забралі новенькія камп'ютэр і прынтэр. Ламаліся і ў суседні пакой, дзе размешчаны цэнтр занятасці БПСМ, а таксама шмат рознай каштоўнай тэхнікі. Не паспелі — нехта спужаў.

Цікава, што з дзесятка дзвярэй на калідоры, за якімі таксама было чым пажывіцца, зладзеі выбралі толькі тыя, на якіх была эмблема БПСМ. У той жа дзень ачысцілі і новы офіс райкама БДПА, які знаходзіўся ў галоўным корпусе акадэміі побач з кабінетам прарэктара. Забралі ўсё, што мела хоць нейкую каштоўнасць: камп'ютэр, магнітафон, нават чайнік, кіпяцільнік і напаўспісаны каляндар. Знікла і папка з пяцццюстамі заявамі на ўступленне ў арганізацыю.

Міліцыя адпрацоўвае некалькі версій. Відавочна, што злачынцы ва ўсіх выпадках дзейнічалі «па наводцы». Эксперты не выключаюць, што ўсе гэтыя крадзяжы ўзаемазвязаныя.

**Сяргей ПРОТАС.**

*ПОЛЬШЧА*

## АКЦЫЯ ПРАТЭСТУ ГАНДЛЯРОЎ У КУЗНІЦЫ

9 лютага адной з галоўных тэм выпускаў навін польскага тэлебачання (пасля інфармацыі з Чачні, дзе нарэшце вызвалілі пяцярых грамадзян Польшчы, якія амаль два месяцы ўтрымліваліся ў якасці жывога тавару) была акцыя пратэсту рынычных гандляроў у Беластоцкім ваяводстве, а дакладней — у прыгранічнай Кузніцы.

Мясцовыя гандляры (паведамляецца пра 2—2,5 тысячы чалавек) перакрылі дарогу, па якой у бок мяжы курсіруе грузавы транспарт. У выніку ўтварылася прыкладна дзесяцікіламетровая чарга машын. Паліцыя спыніла гандляроў, многія з якіх трымалі ў руках плакаты пратэстуючага зместу, за чатыры кіламетры ад польска-беларускага памежнага пераходу.

Акцыя пратэсту звязана з новымі правіламі наведвання Польшчы для суседзяў з усходу. Гэтая навацыя вельмі моцна ўдарыла па інтарэсах польскага бізнесу, асабліва дробных прадпрымальнікаў. Чаму менавіта іх? Справа ў тым, што міжнародныя гандлёвыя кантакты паміж буйнымі фірмамі не надта ўжо і ўскладніліся. Паводле некаторых звестак, многія польскія гуртоўні не скарацілі, а нават павялічылі аптовы продаж свайго тавару. Іншая сітуацыя на рынках, дзе зарабляюць на жыццё гандляры-індывідуалы. Яны практычна цалкам залежаць ад беларускіх і расійскіх «чаўнакоў», а апошніх цяпер, як гаворыцца, раз, два — і ўсё. У выніку гандлёвыя абароты на рынках скараціліся прыкладна на 80 працэнтаў. Як паведамілі карэспандэнту «Звязды» ў Генеральным консульстве Беларусі ў Беластоку, два дні ў горадзе наогул не працаваў ніводны рынак.

У пройгрышы аказаліся, дарэчы, не толькі многія тысячы гандляроў (асабліва жыхары ўсходніх ваяводстваў), але і тыя польскія фірмы, якія вырабляюць адзенне, абутак і іншы тавар з галоўнай арыентацыяй на рынкі. Няма попыту там — «гарыць» бізнес.

Перакрыўшы рух грузавога транспарту (які вязе тавар з вышэйпамянёных гуртоўняў), гандляры, відавочна, спадзяваліся прыцягнуць увагу ўладных структур да сваіх праблем. Яны хочуць, каб беларусы і расіяне прыязджалі, як раней, патрабуюць зменшыць кошт візы для гасцей з усходу.

Прыкладна ў 18 гадзін да ўдзельнікаў акцыі пратэсту прыехалі кіруючыя асобы з ваяводскай адміністрацыі. Гандлярам паабяцалі, што ў пятніцу іх прадстаўнікі будуць выслуханы ва ўрадзе, пасля чаго маніфестанты раз'ехаліся і рух вялікагрузных машын аднавіўся.

Ацэнкі гэтай акцыі і прагнозы наконт далейшых падзей гучаць розныя. У прыватнасці, адна службовая асоба заявіла па тэлебачанні, што гандлярам стала дрэнна перш за ўсё таму, што беларуская мытня абмяжоўвае ўвоз тавару. Таксама гаворыцца, што пасля сустрэчы з гандлярамі, магчыма, «урад зробіць нейкія паслабленні». Аднак, хутчэй за ўсё, на сур'ёзныя перамены, дзякуючы якім пакупнікі з Беларусі і Расіі вернуцца на рынкі і палепшаць жыццё польскіх гандляроў, спадзявацца не варта. Не сакрэт (і гэта прама гаворыцца па тэлебачанні), што закон аб іншаземцах звязаны з умовамі прыёму Польшчы ў Еўрапейскі саюз. Паглядзім, ці не дойдзе ў гэтай сувязі да візавага рэжыму, які ў нас ужо ёсць з Літвой. Вялікая палітыка — справа складаная. І, як засведчыла акцыя пратэсту рынычных гандляроў у Кузніцы, інтарэсы палітыкі і канкрэтных грамадзян не заўсёды супадаюць.

**Барыс ПРАКОПЧЫК.**

*РАДОК У ГІСТОРЫІ АЙЧЫНЫ*

# Пасмяротнае вяртанне на Бацькаўшчыну

Для нашага роду люты — асаблівы месяц: 18 лютага, 105 гадоў таму, нарадзіўся Максім Іванавіч, а 10 лютага, 60 гадоў назад — ён быў расстраляны. Ужо пасля забойства пісьменніка, але ў дзень яго нараджэння ў 1944 г., на фронце загінуў ягоны сын Леанід, а праз год — 13 лютага ад тыфу памёр яго бацька — Іван Кузьміч.

Праз некалькі дзесяткаў гадоў забыцця да людзей вярнулася імя Максіма Гарэцкага, якога літаратуразнаўцы (Алесь Адамовіч, Міхась Мушынскі, Зміцер Бугаёў і інш.) вызначылі як класіка беларускай літаратуры. Янка Брыль неаднойчы падкрэсліваў, што мы маем трох народных Максімаў — Багдановіча, Гарэцкага, Танка.

Час памятае ўсё. З памяці народнай нічога не знішчыш.

1993 год быў аб'яўлены ААН годам Максіма Гарэцкага ў знак 100-годдзя з дня яго нараджэння. Прайшлі многія яго вечары, чытанні, пасяджэнні, канцэрты, выставы ў Нью-Йорку (ААН), Парыжы (ЮНЕСКО), Мінску, Горках, Мсціславе і іншых гарадах. Былі адкрыты мемарыяльныя дошкі ў Мінску і Горках, помнікі ў Вязьме і Мінску. Імя пісьменніка носяць вуліцы ў Мінску, Мсціславе і раённая цэнтральная бібліятэка ў Горках. Пачалі працаваць музей-сядзіба ў Малой Багацькаўцы на яго радзіме і кабінет-музей у Беларускай сельскагаспадарчай акадэміі. Выйшлі з друку многія творы, у тым ліку — двух- і пяцітомнік. Яго творы прыйшлі ў школу — нядаўна тры кнігі выдадзены ў серыі «Школьная бібліятэка». Створаны фонд імя братоў Гарэцкіх.

Максім Гарэцкі нарадзіўся ў невялікай вёсачцы Малая Багацькаўка — ціхім куточку Мсціслаўшчыны — у мнагадзетнай сялянскай сям'і. Бацькі — Іван Кузьміч і Ефрасіння Міхайлаўна — былі непісьменнымі. Абодва роды мелі моцныя карані: бацька Івана пражыў 100 гадоў, а прадзед Ефрасінні — 115. Максім з дзяцінства прагна цягнуўся да ведаў. Ён на выдатна закончыў двухкласную школу, настаўніцкія класы і Горы-Горацкае каморніцка-агранамічнае вучылішча.

Максім Іванавіч пражыў не надта доўгае (усяго 45 гадоў без 8 дзён), але нялёгкае жыццё. Калі яму быў 21 год, пачалася першая сусветная вайна і ён быў адпраўлены на фронт, дзе неўзабаве яго цяжка параніла. За бой 27 снежня 1914 года пад Аленбургам узнагародзілі яго Георгіеўскім крыжам 4 ступені. У арміі прабыў амаль 4 гады. У 1922 годзе быў двойчы арыштаваны белапалякамі і сядзеў у адзіночцы турмы Лукішкі ў Вільні за пракамуністычную дзейнасць.

Амаль адначасова ў Маскве арыштавалі малодшага брата Максіма — Гаўрылу, які быў студэнтам Пятроўскай сельскагаспадарчай акадэміі, арганізаваў Беларускую культурна-навуковую асацыяцыю стаудэнтаў, вельмі актыўна працаваў у напрамку нацыянальнага адраджэння Беларусі. Сястра братоў Гарэцкіх — Ганна, якая толькі паступіла ў Зоатэхнічны інстытут, несла ў турму для брата перадачу, трапіла пад трамвай і памерла. Гора братоў было бязмежным.

Толькі ў канцы 1923 года Максіму Гарэцкаму разам з сям'ёй удалося пераехаць у Мінск. Але ўжо ў ліпені 1930 года М. Гарэцкі трапіў у «архіпелаг ГУЛАГ» як «нацдэм», якога абвінавацілі ва ўдзеле ў неіснуючым «Саюзе вызвалення Беларусі» і як польскага шпіёна. Быў арыштаваны і брат Гаўрыла.

*Мінск, 10 лютага 1998 года, 15.00. Роўна шэсцьдзесят гадоў таму быў расстраляны Максім Гарэцкі.*

**Фота Яўгена ПЯСЕЦКАГА.**

Максіма выслалі ў Вятку, Гаўрыла трапіў на будаўніцтва Беламорска-Балтыйскага канала. Жылося цяжка, прыйшлося працаваць землякопам, чарцёжнікам. Памерла маці, але на пахаванне братоў не адпусцілі.

З восені 1935 года М. Гарэцкі па адбыцці ссылкі працаваў настаўнікам у школе пас. Пясочная Заходняй (Смаленскай) вобласці. У 1937 годзе, калі запар падбіралі недабітых у мінулыя гады «ворагаў народа», ён зноў быў арыштаваны і 10 лютага 1938 года па рашэнню «тройкі» быў расстраляны ў вяземскіх Курапатах.

Арыштавалі і Гаўрылу, але ён цудам застаўся жывым.

Калі падлічыць, дык у дарослым стане пісьменніку Максіму Гарэцкаму пашчасціла больш-менш нармальна пажыць усяго каля 13 гадоў.

Найбольш спрыяльныя ўмовы для жыцця і творчасці былі ў Вільні (1919—22 гг.), дзе ён працаваў настаўнікам літаратуры і мовы ў Першай Беларускай гімназіі; у Мінску, дзе ён быў абраны правадзейным членам Інбелкульта, працаваў у саставе слоўнікавай, тэрміналагічнай, літаратуразнаўчай, мовазнаўчай камісій і секцый, членам навуковай Рады Інбелкульта, выкладаў на рабфаку БДУ і ў Камуністычным універсітэце; у Горках (1926—1928 гг.), дзе загадваў кафедрай беларускай мовы і літаратуры ў Беларускай сельскагаспадарчай акадэміі.

За гэтыя 13 гадоў ён напісаў кнігу «На імперыялістычнай вайне», якую ставяць побач з антываеннымі творамі Барбюса, Рэмарка; выйшлі яго галоўныя аповесці, апавяданні, нататкі, драматычныя творы: зборнік «Рунь», аповесці «Дзве душы», «У чым яго крыўда?», апавяданні «Сібірскія абразкі» і інш. Упершыню Гарэцкі склаў «Гісторыю беларускай літаратуры», якая вытрымала 4 выданні, «Хрэстаматыю беларускай літаратуры XI век — 1905 год», шэраг слоўнікаў, напісаў шмат крытычных артыкулаў і г. д.

Сам вельмі музыкальны (іграў на скрыпачцы, жалейцы, балалайцы, добра спяваў), М. Гарэцкі разам з кампазітарамі М. Аладавым і А. Ягоравым запісаў ад сваёй маці — Ефрасінні Міхайлаўны 318 песень, якія ўвайшлі ў выдадзены ў 1928 г. спецыяльны зборнік «Народныя песні з мелодыямі».

У гэтыя гады Максім Гарэцкі пачаў працаваць і над раманам «Віленскія камунары» і галоўным сваім творам — «Камароўская хроніка» — эпапеяй сялянскага народнага жыцця. Першую кнігу ён змог закончыць ужо ў ссылцы ў Вятцы, а другая так і засталася незавершанай, хаця і працаваў над ёй да апошняй магчымасці. У ссылцы ён напісаў апошнія свае творы: «Скарбы жыцця», «Кіпарысы», «Лявоніус Задумекус», якія выйшлі з друку толькі да 100-годдзя з дня нараджэння пісьменніка.

Які быў Максім Гарэцкі? Чарнявы, ладнай постаці, троху звыш сярэдняга росту, з вялікімі карымі вачыма, з прыгожым высокім ілбом. Па характару — надзвычай жвавы, уражлівы, непасрэдны, але разам з тым — цярплівы, стрыманы. Для яго характэрныя дабрыня, аптымізм, самаахвярнасць. Быў вельмі здольны: меў добрую памяць, аналітычны розум, логіку, глыбокае пачуццё, музыкальнасць. Адметнымі былі яго сумленнасць, прынцыповасць, патрабавальнасць да іншых і асабліва да сябе — таму некаторыя лічылі, што ў яго не надта лёгкі характар. Дзівіў усіх мэтанакіраванасцю. Яшчэ ў часы вучобы вырашыў звязаць свой лёс з беларускай літаратурай, з беларускім дэмакратычным рухам і нацыянальным адраджэннем, чаму ён і застаўся верным да канца сваіх дзён.

Ён быў вельмі сціплы. Да ўсяго напісанага ім адносіўся вельмі строга і прыдзірліва, быў дужа працаздольны. Вялікае пачуццё абавязку, доўг перад грамадою, Радзімай, перад землякамі, роднымі былі ў яго пануючымі.

Спадчына Максіма Гарэцкага — шматграннага і самабытнага дзеяча нацыянальнага адраджэння — арганічная частка беларускай культуры. Ён не толькі адзін з заснавальнікаў беларускай мастацкай прозы, але і вучоны — пачынальнік беларускага літаратуразнаўства, выдатны літаратурны крытык і публіцыст, мовазнавец, перакладчык, фалькларыст, народны асветнік, педагог, рэдактар-выдавец, грамадскі дзеяч.

Максіма Гарэцкага ўсё жыццё падтрымлівала бязмежная любоў да сваёй Бацькаўшчыны. Сваім жыццём ён пацвердзіў свае ж словы: «...ахвярую сваім «Я» ва ймя святога для ўсіх нас адраджэння».

**Радзім ГАРЭЦКІ,
акадэмік Нацыянальнай акадэміі навук Рэспублікі Беларусь.**

## Старонка Паўла Глобы

### 12 лютага, ЧАЦВЕР

**РЭКАМЕНДАЦЫІ.** У гэты дзень лепш не планаваць ніякіх важных спраў. Але вельмі добра аднаўляць справядлівасць і змагацца за шчасце. Удалы перыяд для пачатку навучальнага працэсу, карэспандэнцкіх работ і чытання літаратуры. Абменьвайцеся інфармацыяй, сустракайцеся з людзьмі, але пры гэтым сачыце за сваімі словамі і старайцеся менш «якаць». Не адпраўляйцеся ў далёкія паездкі і падарожжы. Можна заняцца рэстаўрацыйнымі і рамонтнымі работамі, шыццём і рамонтам адзення. Вечар — час весялосці і радасці. Рэкамендуецца руская паравая лазня. Нельга ўжываць жывёльную ежу, грыбы і яблыкі.

**АДЗЕННЕ.** Добра апранацца ва ўсё стракатае і яркае. Не рэкамендуюцца цёмныя тоны і зялёны колер.

**ПРЫМЕТЫ.** Калі вы выпадкова пачулі, што хтосьці гаворыць пра вас, пачулі сваё імя, — знак дапамогі, вам не дадуць апусціцца і перасцерагуць ад памылак. Моцны вецер у спіну — знак таго, што вы знаходзіцеся на правільным шляху. Штосьці парваць з адзення — да страты абароны, галечы. Калі на працягу дня ў вашай падсвядомасці гучыць нейкая музыка — значыць вы знаходзіцеся пад кантролем Вышэйшых Сіл.

**СНЫ.** Калі вы пачуеце ў сне галасы, то сон прарочы. Пачуць музыку — знак дапамогі і апякунства. Бачыць кнігі ці чытаць — да добрай перамены ў жыцці. Убачыць агонь — перасцярога ад памылак, якія вы можаце зрабіць.

**МЕДЫЦЫНА.** Проціпаказаныя аперацыі. Слабае месца — кішэчнік, таму захоўвайце строгую дыету. Можна чысціць кроў і печань, лячыць скурныя хваробы.

**Падрыхтавана да друку спецыяльна для «Звязды» астралагічным цэнтрам «АРБА».**

## СЁННЯ

### СОНЦА

| | Усход | Захад | Даўжыня дня |
|---|---|---|---|
| Мінск – | 7.38 | 17.10 | 9.32 |
| Віцебск – | 7.32 | 16.56 | 9.24 |
| Магілёў – | 7.27 | 16.59 | 9.32 |
| Гомель – | 7.21 | 17.00 | 9.39 |
| Гродна – | 7.53 | 17.26 | 9.33 |
| Брэст – | 7.49 | 17.30 | 9.41 |

### МЕСЯЦ

**Поўня 11 лютага**
***З 18.38 — 15-я месяцавыя суткі.***
***Месяц — у сузор'і Льва***

### ІМЯНІНЫ

**Пр. Ігнацця, Лаўрэнцця,
К. Марыі, Альгерда, Люцыі**

### НАДВОР'Е

Сёння ўдзень па рэспубліцы захаваецца воблачнае з праясненнямі надвор'е, месцамі невялікія ападкі, туман. Тэмпература паветра ў Віцебску — 1—3, Гродне і Магілёве — 2—4, Мінску і Гомелі — 3—5, Брэсце — 4—6 градусаў цяпла.

У наступныя двое сутак месцамі па рэспубліцы, а 12-га ўначы — на большай частцы тэрыторыі ападкі, у асобных раёнах туман. Тэмпература 12-га ўначы — мінус 1—плюс 4, удзень — 2—7 градусаў цяпла; 13-га ўначы — мінус 3—плюс 2, удзень — мінус 1—плюс 4.

